# Голас Радзімы

№ 24 (2166)
14 чэрвеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.









Беларускі
Фестываль
Тэатраў
Лялек

Лялечныя тэатры любяць дзеці і дарослыя. Свет казкі, непасрэднасці і весялосці — для спачыну, забавы і... роздуму. Мусіць, менавіта таму так многа ўдзельнікаў і гледачоў сабраў Беларускі фестываль лялечных тэатраў, які праходзіў у Мінску ў канцы мая — пачатку чэрвеня. На фестываль прыехалі ўсе тэатры лялек з Беларусі, а таксама тэатр «Слёзы радасці» з ЗША, лялькі з Аўстрыі, Галандыі, Францыі, Ізраіля, Польшчы і Югаславіі. За шэсць дзён на розных сцэнах горада мож[illegible] было ўбачыць 44 спектаклі і для дзяцей, і для дарослы[illegible]род іх «Бура» В. Шэкспіра і «Майстар і Маргарыта» М. Булгакава, «Дракон» Я. Шварца, «Рыгорка — ясная зорка» А. Вярцінскага, «Каб не змаўкаў жаўранак» А. Вольскага і «Сказ пра Гаўрылу з-пад Полацка»...

— Нам усім вельмі патрэбны такія святы вяртання ў дзяцінства, — сказаў член журы кампазітар Сяргей Картэс. — А падобныя фестывалі, дзе сустракаюцца дзеячы культуры розных кра[illegible] становяцца залогам моцнай дружбы. Яны напамінаюць, шт[illegible] жывём на вялікай Зямлі, якая не павінна быць падзелена[illegible]якімі ідэалагічнымі бар'ерамі і межамі.

НА ЗДЫМКАХ: у час фестывалю лялек у Мінску.

Фота С. КРЫЦКАГА.



АСУДЖЭННЕ АКТАЎ ВАНДАЛІЗМУ

## У АБАРОНУ ПАМЯЦІ

Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Мінску перадало ў Беларускае тэлеграфнае агенцтва тэкст выступлення прадстаўніка польскага ўрада па друку Малгажаты Незабітноўскай на чарговай прэс-канферэнцыі. У ім даецца ацэнка актам вандалізму ў адносінах да помнікаў загінуўшым савецкім воінам, а таксама хуліганскім выхадкам ля савецкіх консульстваў у Кракаве і Гданьску.

У той жа дзень у БЕЛТА прыйшлі чарговыя выпускі польскіх газет, і ў адным з нумароў «Трыбуны» былі адразу два матэрыялы на гэту тэму. У артыкуле пад загалоўкам «Прыгавор Скапенку» расказана аб разбурэнні ў Сандаміры помніка таму самаму палкоўніку Скапенку, які ў 1944 годзе не дазволіў гітлераўцам ператварыць у руіны гэты старажытны горад, умелымі дзеяннямі сваёй часці вымусіўшы іх да паспешнага адступлення. У свой час помнік быў пастаўлены жыхарамі горада, а знесены нядаўна па ўказанню новага гарадскога галавы.

Другі матэрыял прысвечаны заяве Міністэрства замежных спраў СССР, у якой выказваецца пратэст у сувязі з апаганьваннем помнікаў савецкім салдатам і дэбошам ля некаторых савецкіх консульстваў. Газета выдзяляе тыя месцы заявы, дзе гаворыцца аб патрабаванні савецкага боку забяспечыць нармальныя ўмовы для функцыяніравання дыпламатычных прадстаўніцтваў. У адваротным выпадку ўзнікне пытанне аб мэтазгоднасці іх дзейнасці ў Польшчы.

Сваю заклапочанасць здарэннем выказаў і польскі ўрад, ад імя якога Малгажата Незабітоўска падкрэсліла на прэс-канферэнцыі, што апаганьванне савецкіх сімвалаў і месцаў памяці ў Польшчы супярэчыць асновам польскай палітычнай культуры і міжнароднаму праву, выклікаючы справядлівыя пратэсты ўлад СССР і негатыўную рэакцыю савецкай грамадскай думкі. Рашуча асудзіўшы такія акты, яна заявіла, што ўрад прыме эфектыўныя меры да таго, каб не дапусціць іх паўтарэння.

РЫХТУЕЦЦА ВЫДАННЕ

## КНІГА-ХРОНІКА

Работа над стварэннем гісторыка-дакументальнай кнігі-хронікі «Памяць» вядзецца зараз у Гродне. Яе раздзелы будуць прысвечаны мінуламу горада да 1917 года, барацьбе за Савецкую ўладу, нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, Вялікай Айчыннай вайне, пасляваеннаму перыяду і сучаснаму развіццю абласнога цэнтра.

У кнізе будуць надрукаваны прозвішчы гродзенцаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у Іспаніі, Афганістане, а таксама салдат, афіцэраў і падпольшчыкаў, якія аддалі жыццё за вызваленне горада. Пайменна назаве кніга гродзенцаў — удзельнікаў антыфашысцкага падполля ў іншых краінах, вязняў канцлагераў, а таксама незаконна рэпрэсіраваных у 1930 — 1950 гадах.

Пры складанні кнігі будуць выкарыстаны матэрыялы архіваў і музеяў. Але ёсць і нямала невядомых старонак гісторыі. Таму гарадская камісія па стварэнню кнігі-хронікі звярнулася да ветэранаў вайны і працы, старажылаў і ўсіх жыхароў Гродна з просьбай дапамагчы ў яе падрыхтоўцы.

*Сёння назіраецца ў камунізму хваравіты стан. Я лічу, што праз 5—6 гадоў Савецкі Саюз выйдзе з крызісу. Крызіс будзе пераадолены. І хаваць камунізм, камуністычнае грамадства рана. Больш таго — лёс Усходняй Еўропы канчаткова яшчэ не вырашаны.*

*Яшчэ аб адным аспекце трэба сказаць. Калі хаваюць камунізм, не прымаюць пад увагу фактары міжнароднага парадку. СССР існуе не ізалявана. Працвітанне Захаду не вечнае. Унутраныя адносіны ў заходніх грамадствах не такія ўжо і гарманічныя, як здаецца. Ну, а што калі ў бліжэйшы час пачнецца эканамічны крызіс на Захадзе, як у 1929 годзе? Што адбудзецца? Неадкладна мільёны людзей кінуцца зноў у абдымкі да камуністаў. А выключаць такі крызіс нельга. Акрамя таго, празмернае аслабленне камуністычных краін, Савецкага Саюза ў першую чаргу, — гэта яўны шлях да вайны. Гэта найбольш цвярозыя заходнія палітыкі разумеюць, гаворачы, што будзе парушаны баланс сіл і гэта без вынікаў не абыдзецца. Калі толькі пагроза вайны будзе выглядаць рэальнай, неадкладна адбудзецца змена настрояў і ў мас, і ў палітыкаў.*

*(Аляксандр ЗІНОЎЕЎ, пісьменнік, вучоны, член акадэмій Фінляндыі і Італіі).*

ПРЫЗВЫЧАЙВАЕМСЯ

## ГАНДАЛЬ ПА ТАЛОНАХ

Пасля талонаў на цукар, да якіх мы ўжо прызвычаіліся, у Мінску з пачатку чэрвеня ўведзены продаж на талонах і некаторых іншых прадуктаў харчавання. Ва ўпраўленні гандлю Мінгарвыканкома гэтую з'яву часоў перабудовы тлумачаць так.

— Пасля таго як стала вядома аб праграме пераходу эканомікі краіны да рэгулюемага рынку і мяркуемым павышэнні цэн на асобныя віды тавараў і прадуктаў, попыт на многія іх віды рэзка ўзрос. Стабілізаваць становішча, накіроўваючы ў гандлёвую сетку большую колькасць гэтых тавараў, дасягнуць жаданых вынікаў не дазволіла. Паліцы магазінаў пусцелі імгненна. Тое самае адбывалася і са спіртнымі напіткамі. Паводле сведчання прадаўцоў, у апошнія дні ў чарзе за віном і гарэлкай стаялі звычайна адны і тыя ж людзі, якія скуплялі асноўную частку тавару. Большая частка яго прызначалася не для ўласнага выкарыстання, а для перапродажу па спекулятыўных цэнах. У сувязі з гэтым была створана дэтацкая група гарсавета па вывучэнню гэтай праблемы, і яе вывады ляглі ў аснову рашэння сесіі гарсавета: увесці з пачатку чэрвеня талоны на продаж мукі, круп, макаронных вырабаў і спіртных напіткаў.

У чэрвені аднаму жыхару Мінска будзе прададзены 1 кілаграм круп, 1 кілаграм мукі і паўкілаграма макаронных вырабаў. На астатнія месяцы застаюцца практычна тыя ж нормы. Але затое з гарэлкай будзе раскошней. Да канца года на жыхара горада, якому споўнілася 21 год, будзе прададзена моцных спіртных напіткаў 13 бутэлек, а віна — 12 бутэлек.

ЭКАЛОГІЯ



**У самых «гарачых» кропках Наваполацка можна сустрэць супрацоўнікаў гарадской экалагічнай лабараторыі. На прадпрыемствах, асабліва небяспечных для атмасферы, у месцах скідаў сцёкавых вод, на самых ажыўленых гарадскіх магістралях у розны час сутак спецыялісты бяруць пробы паветра і вады. У выпадку пагаршэння экалагічнай сітуацыі прымаюцца неабходныя меры.**

**У новай службы яшчэ нямала праблем і галоўная — недахоп сучасных кантрольна-вымяральных прыбораў. Але ўсё ж стварэнне экалагічнай лабараторыі дазваляе спадзявацца, што вада і паветра ў горадзе вялікай хіміі стануць значна чысцейшымі.**

**НА ЗДЫМКУ: тэхнік-хімік Таіса ЛАЗУКА кантралюе стан паветранага асяроддзя на вуліцы Маладзёжнай.**

ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНЫ АБУТАК

## ЧАРАВІКІ-ЛЕКАРЫ

Даўно заўважана, што ўвесь навакольны свет, уключаючы прадметы быту і нават адзенне, уплывае на настрой і самаадчуванне чалавека. А чаму б гэта не выкарыстаць у лячэбных мэтах? Паставіўшы такое пытанне, вучоныя Інстытута механікі металапалімерных сістэм Акадэміі навук БССР і спецыялісты Гомельскага завода хімічных вырабаў стварылі эксперыментальны лячэбны абутак для гіпертонікаў.

Пасля паўгадзіннай хадзьбы ў такіх чаравіках у хворага пачынае зніжацца павышаны артэрыяльны ціск.

НОВАЯ АВІЯЛІНІЯ

## МІНСК — САФІЯ

Новую паветраную трасу праклаў «Аэрафлот». У Сафійскім аэрапорце пасля 2 гадзін 10 мінут палёту з Мінска прызямліўся ТУ-134, што паклаў пачатак рэгулярным авіярэйсам паміж сталіцамі Беларускай ССР і Балгарыі. З'яўленне гэтай паветранай лініі — адказ авіятараў на ўзросшае дзелавое супрацоўніцтва паміж Беларуссю і НРБ, на расшырэнне культурных сувязей, павелічэнне патокаў турыстаў. Новы маршрут стаў 51-й авіялініяй «Аэрафлоту», што звязвае СССР і НРБ.

На чарзе адкрыццё яшчэ адной лініі: яна звяжа Мінск з чарнаморскім курортам Балгарыі — Варнай.

АГАРОДНІЦТВА

## ПРЫЖЫВАЮЦЦА «ГАЛАНДЦЫ»

Незвычайна вядзецца сёлета пасадка капусты ў агародніцкіх гаспадарках аграпрамысловага камбіната «Заходні Буг». Амаль трыццацігектарнае поле ў прыгарадных саўгасах «Брэсцкі» і імя Кісялёва разбіта на шматлікія ўчасткі, на кожным з якіх будзе выпрабоўвацца новы сорт. Такіх доследных палёў тут два дзесяткі — менавіта столькі сартоў насення капусты паставіла брэсцкім агароднікам буйная галандская фірма «Бэзадэн». Яна ж прадала аграрнамбінату адзінаццаць сартоў морквы, па некалькі сартоў каляровай капусты, агуркоў і таматаў. І хаця расплачвацца «Заходняму Бугу» давялося валютай, якую камбінат стаў зарабляць нядаўна, агароднікі планую атрымаць ад здзелкі немалую выгаду. Фірма ж гарантуе высокую якасць пасяўнога матэрыялу і дакладныя спажывецкія параметры гатовай прадукцыі. А гэта — і багаты ўраджай, і добрыя смакавыя якасці гародніны, і здольнасць іх да доўгага захоўвання. Тым сартам, якія ва ўмовах Прыбужжа пакажуць сябе лепш за іншыя, будзе аддадзена перавага ў наступным годзе.

ІТАЛЬЯНЦЫ Ў ПІНСКУ






**Свабодна канверсуемай валютай мяркуе разлічвацца італьянская фірма «Рымольдзі» з Пінскім вытворчым прадзільна-трыкатажным аб'яднаннем за паслугі па навучанню рабоце на машынах, што выпускаюцца фірмай, за тэхнічную кансультацыю і арганізацыю для савецкіх аднатыпных прадпрыемстваў семінараў на базе беларускага аб'яднання.**

**Каб вучыць іншых, многае трэба ўмець самім. Пінскія трыкатажнікі ўзялі курс на абнаўленне ўласнай вытворчасці. Па плану праводзімай тут рэканструкцыі замене падлягае каля трыццаці працэнтаў тэхналагічнага абсталявання. Недахоп валюты, на жаль, пакуль не дазваляе расшырыць гэтыя межы, таму вызначаны першачарговыя, найбольш слабыя месцы ў тэхналагічных ланцужках.**

**Тэхнічны парк прадпрыемства ўжо папоўнілі італьянскія машыны «Процці», што імітуюць ручное вязанне, іспанскія «Джумберкс», якія маюць выключна вялікія магчымасці ў перапляценнях і буйных жакардавых рысунках. На трыкатажнай фабрыцы ўстаноўлены імпартныя машыны, якія ўмеюць ушываць «маланкі», выконваць аддзелачную строчку і іншае. Такія аперацыі на старым абсталяванні не выконваліся. Набыты за мяжой машыны для каляровага друку, вышывальныя. Словам, створаны ўмовы для таго, каб вырабы з маркай беларускага аб'яднання былі канкурэнтаздольныя на знешнім рынку.**

**НА ЗДЫМКАХ: рабочую нараду па тэхнічнаму абслугоўванню абсталявання праводзіць прэзідэнт італьянскай фірмы «Рымтэкс», што ўваходзіць у «Рымольдзі», доктар Марыо ПІАЦА (трэці злева); італьянскія спецыялісты Алаіза ФРАНКА (злева), Марыо СЕРДЖА і Панаці БРУНА за наладкай машыны фірмы «Рымольдзі».**

## НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА АДКРЫТА Ў САБОРЫ Ў МІНСКУ

# УРОК ПАСЛЯ ЎРОКАЎ

У Мінскім кафедральным саборы працуе нядзельная школа для дзяцей. Гэтая з'ява наколькі старая, настолькі ж і новая ў нашым грамадстве. Яна спадчынніца царкоўнапрыходскай формы навучання, але з перарывам у 72 гады.

Як вядома, рэлігія спецыяльнымі дэкрэтамі Савецкай улады была аддзелена ад дзяржавы і школы. Закон гэты не адменены і па сёння, таму пратаіерэй Георгій Латушка, свяшчэннік Мінскага кафедральнага сабора, куратар нядзельнай школы, лічыць сваю навучальную ўстанову ў пэўным сэнсе «незаконнай» і цяпер. Але час змяніў вельмі многае ў структуры савецкага грамадства, у яго свядомасці. Таму нягледзячы ні на што, заняткі ў саборы поўнасцю «легальныя», і бацькі вядуць туды сваіх дзяцей, нічога і нікога не баючыся.

У канцы мая навучальны год закончыўся не толькі ў агульнаадукацыйных школах, але і ў нядзельнай. У яе залічана 170 вучняў ад 7 да 15 гадоў. Дзеці вывучаюць Стары і Новы запавет, гісторыю царквы, літургіку — па паўтары гадзіны ў тыдзень.

Пакуль новая справа ў значнай ступені трымаецца на энтузіязме свяшчэннікаў-выкладчыкаў. Хаця і атрымлівае значную падтрымку з боку Епархіі і асабіста мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Улічваючы, што вельмі не хапае памяшканняў, мітрапаліт запрасіў групу старэйшых выхаванцаў займацца ў Епархіяльным упраўленні. Але вось з кнігамі — праблема. Даводзіцца шукаць старыя падручнікі Закона божага, старыя праграмы колішніх царкоўнапрыходскіх школ. Думаецца, справу з вучэбнымі дапаможнікамі царква наладзіць самастойна, а знайсці класы — няпроста. Побач з саборам захаваліся старыя пабудовы, што калісьці ўваходзілі ў манастырскі комплекс, які тут месціўся. Сёння праваслаўная царква просіць вярнуць ёй хоць што-небудзь з таго. Аддаюць жа памяшканні католікам! І, дарэчы, вельмі нямала... А тут справа ніяк не зрушыцца з месца. Аргументы: гэтыя пабудовы ўжо размеркаваны наперад (сёння ім патрабуецца значная рэканструкцыя).

Але вернемся да саміх урокаў у саборы. Мне давялося пабыць на адным з іх. На ўрок дзеці гадоў сямі—дзесяці збіраліся так, як прыйшлі б на любыя іншыя заняткі ў вольны дзень. Некаторыя былі з бацькамі. Настаўнік, айцец Васілій, ветліва запрасіў усіх пачынаць. Малітва, а потым амаль усё як у звычайнай школе: пытанні, адказы, мяккі дакор тым, хто нешта недавучыў. Вось у гэтай мяккасці быў і нязвыклы для дзяцей і, у прыватнасці, для мяне момант: «свецкі» настаўнік, настаўніца ўжо паставілі б нездавальняючую адзнаку або і голас павысілі. На жаль, карціна для ўсіх нас добра знаёмая. Магчыма, ёсць сэнс работнікам народнай адукацыі ў нечым і павучыцца ў «калег». Але, як сказаў айцец Георгій, ніхто з іх ніколі не цікавіўся заняткамі ў саборы, маўляў, а ці патрэбны яны? Рэлігія ж аддзелена ад школы... Ды мне здаецца, што цікавіцца душой вучня павінен не толькі духоўны пастыр, але і школьны, а таму не пашкодзіла б знаць болей пра дзяцей, якія ім давераны.

Я спытала ў некаторых выхаванцаў нядзельнай школы, як жа адносяцца да іх у школе звычайнай. Адказы былі розныя. Напрыклад, трое дзяцей таго ж айца Георгія не зведваюць вялікіх складанасцей. А вось хлапчук гадоў дванаццаці скардзіўся: аднакласнікі ўбачылі ў яго сумцы Евангелле і цяпер насміхаюцца.

Гледзячы на падлеткаў, я, шчыра кажучы, дзівілася. Здаецца, паспрабуй дзесяці-дванаццацігадовага хлопчыка ці дзяўчынку прымусіць нешта дадаткова ў нядзелю вывучыць — справа не з лёгкіх: перавага будзе аддадзена сябрам на двары, тэлевізару, кіно, прыгодніцкай кніжцы. А тут на тварах і следу якога-небудзь прымусу не ўбачыш. Чаму? Не ведаю. І другое. Мне падалося, што, нягледзячы на ўсе перамены ў грамадскім светапоглядзе, і сёння маленькія прыхаджане царквы — людзі моцныя. Узгадайма, хаця б таго хлапчука, з якога смяюцца сябры (а дзеці ж умеюць быць надзвычай жорсткімі). Але і ў мінулую нядзелю ён быў у саборы...

Так, практычна ўсе дзеці, якія наведваюць царкву, з сем'яў веруючых, малых прыводзяць за руку маці. Але колькасць жадаючых запісацца ў нядзельную школу расце. Пацікавілася ў айца Георгія, як на яго погляд: гэта адраджэнне рэлігійнасці ў народзе ці даніна модзе?

— Хутчэй за ўсё на ўзмацненне працэсу ўздзейнічаюць абедзве прычыны. Раней многія людзі вымушаны былі хаваць свае погляды, рэлігійныя настроі. Сёння ў тым няма патрэбы, і многія, нарэшце, рызыкнулі прыйсці ў храм.

Ёсць і такія, для каго наведанне царквы — нешта накшталт сеанса ў моднага псіхатэрапеўта, каго пабуджае звярнуцца да рэлігіі жаданне незвычайнага або схільнасць да містыцызму, бывае, што і нездаровага. А ў выніку побач з сапраўдным адраджэннем духоўнасці ў чалавеку зараз ідзе і працэс прафанацыі свяшчэннага. Гэта вельмі непакоіць.

Наогул жа, значная дэмакратызацыя адносін да царквы — вынік перабудовы. Тут іншага меркавання і быць не можа. Плюралізм, абвешчаны на самым пачатку новых перамен у савецкім грамадстве, сёння пераходзіць у рэаліі нашага жыцця.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ПЕРАБУДОВА І ЯЕ ГАЛОЎНЫЯ ВЫКАНАЎЦЫ

# У ВЯЛІКІМ СЯЛЕ— ВЯЛІКІЯ ПЕРАМЕНЫ

Сярод бойкай і напорыстай старшынёўскай кагорты Брэстчыны Уладзімір Мікіціч, бадай, у вочы адразу не кінецца. Аднак, хаця і сціплы, аўтарытэтам карыстаецца немалым. Бо менавіта яго выбралі калегі старшынёй раённага Савета калгасаў.

Калі У. Мікіціч прыняў гаспадарку, калгас імя Свярдлова быў не з апошніх: моцны серадняк. На рахунку ў банку мелася больш за 400 тысяч рублёў. Толькі грошы гэтыя ляжалі мёртвым [illegible]італам. Яго папярэднік падыходзіў да іх з сялянскай мерк[illegible]алі яны ёсць на рахунку, ты не бедны. А будаваць навошта? На наш век хопіць. Старыя, хто бачыў на сваім вяку горшае, лазняў не патрабавалі, тэлефонаў тым больш, а гароды засеяць калгас дапамагаў. Гаспадарка выконвала даведзеныя планы, у раёне не хвалілі, але і не лаялі. Спакойнае жыццё застойных часоў цякло і тут — у Вялікім Сяле, Ялаве, Юхновічах.

Час прыкметных перамен у Вялікае Сяло прыйшоў з новым старшынёй. Уладзімір Мікалаевіч разумеў, што калі ў калгасе ўсіх працаздольных крыху больш за 200, а пенсіянераў — 327, то першае, пра што трэба думаць, — пра людзей, якія тут працуюць. Трэба было зрабіць так, каб маладыя заставаліся жыць у родных мясцінах. А для гэтага, па перакананню Мікіціча, патрабавалася мяняць да лепшага ўмовы працы і быту сялян, гарантаваць ім выхадныя. І будаваць не толькі сучаснае, зручнае жыллё, але і калгасны дзіцячы сад, Дом механізатара, лазні, тэлефонную станцыю, спартыўны комплекс, рэканструяваць фермы і майстэрні, добраўпарадкоўваць сельскія вуліцы, міжгаспадарчыя дарогі.

Калі Мікіціч прыйшоў з гэтымі планамі на праўленне калгаса, слухалі яго ўважліва, нават зацікаўлена, але рашэнне аб выдзяленні грошай праўленцы прымалі, відаць, з апаскай, маўляў, абяцаць старшыні ўмеюць. Але чалавек слова, які сам вырас у беднай беларускай вёсцы і выбраў прафесію агранома справай жыцця, Мікіціч даказаў, што ўмее ператвараць свае абяцанні ў рэальныя справы.

Цяпер на калгасным рахунку ўжо больш чым мільён рублёў прыбытку, сярэднегадавыя ўдоі на карову за чатыры гады павялічыліся на 1 000 кілаграмаў і складаюць амаль 3 700, а мяса дзяржаве прадаецца амаль 500 тысяч тон, што на 210 тысяч тон больш, чым у 1985 годзе. У калгасе няма сёння праблем з кадрамі механізатараў, даярак, вадзіцеляў, спецыялістаў сярэдняга звяна. Зімой і летам у нядзелю ва ўсіх выхадны дзень.

Тры вуліцы, а гэта звыш 30 дабротных, прыгожых дамоў сядзібнага тыпу, упрыгожылі Вялікае Сяло. А самае галоўнае, чаму радуецца старшыня, што ў кожным доме растуць двое-трое дзяцей, у калгасны дзіцячы сад ужо ходзіць больш за 30 дзяцей, у мясцовай васьмігодцы вучыцца каля ста школьнікаў. Пасля службы ў Савецкай Арміі хлопцы ахвотна застаюцца працаваць у родных мясцінах, жэняцца, грунтоўна абзаводзяцца і домам, і гаспадаркай. Значыць, маладзее Вялікае Сяло!

Па планах старшыні, трэба будзе яшчэ будаваць і будаваць. Будзе ў Вялікім Сяле праз некалькі гадоў і спартыўны комплекс з басейнам, і яшчэ адзін дзіцячы сад, магазін, пральня. Да мільёна рублёў штогод траціць калгас імя Свярдлова на ўзвядзенне жылля, аб'ектаў сацыяльнай сферы, рэканструкцыю вытворчых будынкаў.

Перамены, што прыйшлі ў Вялікае Сяло, гэта не толькі вынік рэформ, якія нясе перабудова, але перш за ўсё свядомая, адказная работа кожнага калгасніка, работа, якая патрабуе творчасці, сутыкнення думак, ініцыятывы, самааддачы.





**НА ЗДЫМКАХ: хутка ў сям'і загадчыка калгасных майстэрань Івана ВЕСЯЛЕВІЧА — наваселле; у дзіцячым садзе калгаса. Старшыня Уладзімір МІКІЦІЧ і выхавальніца Ніна РАГАЧ гутараць з дзецьмі.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

# КІТАЙЦЫ Ў ПРУЖАНАХ

Некалькі гадоў назад ва ўрочышчы «Чэпелеўская багна» закончыліся торфараспрацоўкі. Апусцеў невялікі пасёлак торфабрыкетнага завода, які ўключаў некалькі шматкватэрных дамоў, клуб, магазін, майстэрні, гаспадарчыя пабудовы. Меліяратары «Брэстводбуда» правялі рэкультывацыю зямель і перадалі іх калгасу імя Калініна. Хто ведае, як склаўся б далейшы лёс гэтага прыгожага кутка на пружанскім Палессі, калі б не выпадак...

Вяртаючыся з замежнай камандзіроўкі, у Пружанах спыніўся намеснік дырэктара сумеснага прадпрыемства «Манусонік», якое мае партнёраў у многіх краінах, масквіч Юрый Шарэц. Ён прапанаваў супрацоўніцтва ў будаўніцтве турбазы ў тутэйшых маляўнічых мясцінах, паслугі кітайскай народнай медыцыны. Калі закранулі сельскую гаспадарку, то з'явіўся ўзаемны інтарэс... Праз некалькі тыдняў прыехалі прадстаўнікі кітайскай кампаніі «Сінлі» — партнёра «Манусоніка». Агледзелі ўрочышча «Чэпелеўская багна» і далі згоду на арэнду зямлі і пабудоў. Кітайцы прывезлі насенне соі, а таксама кавуноў і памідораў, морквы, агуркоў, цыбулі. Калгасы імя Калініна, «Новая крыніца» і іншыя гаспадаркі выдзелілі некалькі гектараў добрых земляў. Згодна з кантрактам, значная частка вырашчанай кітайскай арцеллю прадукцыі застанецца ў распараджэнні раёна.

У Кітай хутка адпраўляецца другая дэлегацыя брэсцкіх прадпрымальнікаў. Будзе вырашацца пытанне аб будаўніцтве кітайскімі спецыялістамі жылля, аб'ектаў сацкультбыту, цагельнага завода. У Пружанах намячаецца адкрыць рэстаран з кітайскай кухняй і абслуговым персаналам.

Калі апраўдаюцца надзеі на ўраджай кітайскіх арандатараў, то Чэпелеўская Гута стане іх пастаянным пасяленнем. Будзе праведзена рэканструкцыя будынкаў, на базе механічных майстэрань адкрыецца цэх па выпуску соевага соусу.

# СВЕЧКІ НАДЗЕІ

## ІМКНЕЦЦА ЗАПАЛІЦЬ У СЭРЦАХ ЛЮДЗЕЙ БЕЛАРУСКІ САЮЗ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ «ЗНІЧ» ІМЯ П. М. МАШЭРАВА

**Мяне вядзе на сустрэчу інтарэс да новай суполкі, звесткі аб якой нядаўна прамільгнулі ў рэспубліканскім друку. Ведаю ўжо, што старшынёю саюза абрана Наталля Машэрава, дачка трагічна загінуўшага дзесяць гадоў назад Першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава. Дапамагаць сваім суграмадзянам, якія трапілі ў палон радыяцыйнага нашэсця, — задача высакародная, але і вельмі адказная. Якім кірункам мае намер рухацца саюз «Зніч», каб вырашаць яе ў адпаведнасці з гэтай адказнасцю!**

**З такім пытаннем і пераступаю парог кватэры. Галоўнае яе багацце — шафа з кнігамі і партрэт Пятра Міронавіча над ёю. Інтэр'ер вельмі сціплы...**

**У гутарцы, апроч Наталлі Машэравай, бярэ ўдзел яе муж, член праўлення саюза Уладзімір Пятроў, загадчык адной з лабараторый БДУ.**

*— Наталля Пятроўна, што з'явілася пабуджальным імпульсам, які прывёў вас да думкі ўзяцца за стварэнне арганізацыі? Калі яна ўзнікла?*

**Наталля МАШЭРАВА.** Саюз «Зніч» утвораны сёлета 18 красавіка на ўстаноўчым сходзе. Гэта няўрадавая грамадская арганізацыя. Мы і нашы сябрыаднадумцы лічым, што патэнцыял навуковай і творчай інтэлігенцыі не знаходзіць дастатковага выкарыстання падчас вырашэння чарнобыльскіх праблем. Мяркуем, што галоўную ўвагу трэба звярнуць на лейкоз і рак шчытападобнай залозы ў дзяцей. Усплёск гэтых захворванняў прагназіруецца праз два-тры гады. Аднак ужо цяпер трэба ратаваць дзяцей! Яны патрабуюць дапамогі ў гэтую самую хвіліну. Жахліва адтаго, што ўсведамляеш: гэтыя — безнадзейныя, ім засталіся тыдні, месяцы...

*— А хто выступіў заснавальнікам саюза, — сям'я Машэрава?*

**Н. М.** Не... Як вядома, па закону аб грамадскіх арганізацыях ад 1932 года, не менш як 50 чалавек могуць заснаваць свой фонд, саюз і г. д. Нашу ініцыятыўную групу складаюць навукоўцы, людзі мастацтва, спартсмены. А членам саюза можа стаць кожны, хто нясе ў сабе дух міласэрнасці, філантропіі. Уступны ўзнос сімвалічны — адзін рубель. Для калектываў абмежаванняў няма. Хоць мы яшчэ працуем над дакументамі аб калектыўным і індывідуальным членстве, аднак дэ-факта ў рабоце «Зніча» ўдзельнічаюць і супрацоўнікі Акадэміі навук БССР, і Беларускага экалагічнага саюза, і Дзяржтэлерадыё і Міністэрства замежных спраў, і многіх іншых устаноў. Мы падтрымліваем сувязі з касманаўтамі Церашковай, Клімуком, пісьменнікам Адамовічам. На жаль, яны не змаглі прыехаць на ўстаноўчы сход. 15 тысяч ліквідатараў-чарнобыльцаў, тых, хто непасрэдна працаваў у зоне ЧАЭС, хочуць уступіць у наш саюз.

*— Скажыце, калі ласка, ахвяраванні, сабраныя вамі, пойдуць на нейкую канкрэтную мэту?*

**Н. М.** Пойдуць на аздараўленне людзей і перасяленне іх з забруджаных тэрыторый. І не толькі ахвяраванні, але і прыбытак, які мы плануем атрымліваць ад гаспадарчай дзейнасці, арыентаванай на стварэнне сумесных з замежнымі фірмамі прадпрыемстваў.

Наша медыцына аказалася не падрыхтаванай да бяды. Патрэбна валюта. І многа. Курс лячэння вострай лейкаміі ў аднаго дзіцяці каштуе больш як 100 тысяч долараў і магчымы толькі за мяжою.

**Уладзімір Пятроў.** Да таго ўсплёску захворванняў, аб якім гаварыла Наталля, мы павінны рыхтавацца, ствараць медыцынскую і інфармацыйную базу, распрацоўваць нетрывіяльныя спосабы лячэння. Ёсць распрацоўкі цэлага комплексу лекавых прэпаратаў, выкананыя на кафедры радыяцыйнай хіміі БДУ, застаецца як мага хутчэй правесці клінічныя выпрабаванні. Маем мы прапановы і ад экстрасэнсаў. Дадам, што не толькі наша, але і сусветная медыцына не падрыхтавана да бедства такога маштабу. Захад слаба інфармаваны аб памерах аварыі на ЧАЭС і яе выніках не толькі для Беларусі, але і яго самога. Яны ўяўляюць рэальны стан рэчаў надта спрошчана: выбух, саркафаг, трыццацікіламетровая зона. І ўсё! Нядаўна паказалі мы аднаму амерыканскаму прадпрымальніку фільм пра Чарнобыль — цяжкая карціна. Госць быў так уражаны, што яму кепска стала з сэрцам. Перыяд паўраспаду радыенуклідаў вельмі працяглы, і ў выніку тэхнагеннай дзейнасці радыяцыйная пляма будзе мігрыраваць і захопліваць усё новыя тэрыторыі.

**...Затым я даведваюся, што «Зніч» выступае за дыялог з любой палітычнай арганізацыяй, будзе гэта БНФ ці КПБ, але ў рэальных справах, а не проста дзеля дыялога.**

**У. П.** Кажуць, што паміж праваслаўем і каталіцызмам мур, які не дарастае да Бога. Не павінна быць ніякіх муроў у тым, што датычыць Чарнобыля. І мы не збіраемся падыгрываць каму-колечы дзеля задавальнення ягоных палітычных амбіцый.

*— А як ставяцца да вашага саюза дзяржаўныя і савецкія органы? Ёсць перашкоды вашай ініцыятыве, кантактам?*

**Н. М.** Вядома, без цяжкасцей не абыходзіцца.. Але афіцыйныя ўлады добра супрацоўнічаюць з намі.

*— Чым больш я вас слухаю, тым лепш разумею: вы — сапраўдныя падзвіжнікі і велізарны абсяг работы ляжыць перад вамі. А свае прафесійныя абавязкі? А асабістае жыццё? У вас жа немалая сям'я, так?*

**Н. М.** Дзве дарослыя дачкі, шасцігадовы сын. Мама жыве побач, сястра ў Маскве.

*— Тады можа «Зніч» разлічвае на вялікія штаты? А калі не, дык на каго вы абапіраецеся ў рабоце?*

**Н. М.** Мы пайшлі на гэта свядома, так ужо бацька нас выхаваў. Ён заўжды гаварыў, што жыць трэба не толькі дзеля ўласных інтарэсаў... Я цяпер пераканалася: багата ў нас разумных, энергічных грамадзян, якія жадаюць змагацца і працаваць у імя ідэі. Напачатку было складана, пасля ўзнік ланцужок, у кожнага ёсць вызначаныя абавязкі. Наша апора — грамадскасць, напрыклад, бацькоўскія камітэты ў школах, вучылішчах. На грамадскіх пачатках працуюць у саюзе юрыст, эканаміст, бухгалтар.

**У. П.** У штат збіраемся залічыць пакуль што аднаго ўрача-педыятра. Мы павінны мець спецыяліста, якому цалкам давяраем. Надалей, відаць, спатрэбяцца дадатковыя штатныя адзінкі.

*— Наталля Пятроўна, хоць саюз «Зніч» па ўзросту немаўля, але я адчуваю, што аб якіхсьці здабытках вы ўжо можаце расказаць.*

**Н. М.** Вядома... Наладжваем супрацоўніцтва з партнёрамі ў Аўстрыі, Галандыі. ФРГ выдзеліла грошы і будзе лячыць пяць нашых малалетак.

**...Аб тым, ці прыгадаюць гаспадары сярод капіталістычных партнёраў і ахвярадаўцаў нашых суайчыннікаў, я пытаюся хутчэй за ўсё фармальна, ведаючы, што і ў першым, і ў другім выпадку... нягуста. І нечакана чую, што якраз на гэтым шляху назіраецца актыўнасць. Плённымі называюцца дзелавыя адносіны з Яфімам Няжэўскім са Злучаных Штатаў, які ладзіць на Беларусі супольную фірму. Гучыць імя аўстралійскага мільянера Аляксандра Джамірзе, які паходзіць з вядомай сям'і эмігрантаў з нашай краіны. На маскоўскім тэлемарафоне 26 красавіка ён перадаў праз маіх субяседнікаў дзецям Беларусі, пацярпеўшым ад радыяцыі, чэк на 7,5 тысячы аўстралійскіх долараў. Акрамя таго, асігнаваў 500 тысяч на закупку ў Аўстраліі чыстых, высокакаларыйных прадуктаў харчавання: мёд, арэхі, сухафрукты.**

**Сужонства Машэрава—Пятроў ахвотна знаёміць мяне з планамі саюза адносна арганізацыі выстаўкі майстроў славутай віцебскай школы Кандзінскага, Шагала, Пэна ў Ізраілі, ЗША, Канадзе.**

**У. П.** А колькі цудоўных твораў «нерухома» аселі ў нашых запасніках: беларускі іканапіс, прыкладное мастацтва. Чаму ж не паказваць іншаземнаму гледачу гэтае багацце сусветнага ўзроўню, атрымліваючы за гэта валюту, з-за недахопу якой паміраюць дзеці?! Хацелі б таксама праводзіць за мяжою матчы мінскага «Дынама» на ўмовах дабрачыннасці, адкрыць у Мінску цэнтр маркецінга і інфармацыі.

*— І яшчэ адзін важны момант... Некалькі разоў я быў сведкам таго, што, прывозячы дарункі, замежныя суайчыннікі пытаюцца, куды яны, іх ахвяраванні, трапяць, як будуць скарыстоўвацца...*

**Н. М.** Зразумела... Мы шырока адчынім дзверы, дадзім «зялёную вуліцу» любым экспертам, з любой краіны. Няхай сабе кантралёрамі будуць і журналісты са «Штэрна», мы гаварылі з імі на гэты конт... Усім мы забяспечым доступ да неабходных матэрыялаў, справаздач саюза і г. д.

**У. П.** Прадугледжаны і яшчэ адзін варыянт: адкрываць валютныя рахункі за мяжою і там купляць патрэбнае. Такім чынам гарантуецца поўная падкантрольнасць пад дахам заходніх банкаў.

**Н. М.** Наша крэда — абсалютная публічнасць і сумленнасць. Да гэтага абавязвае нас памяць аб бацьку, яго шчырасць, адданасць інтарэсам беларускай нацыі...

*— Вялікае дзякуй за размову і поспехаў вам.*

**Гутарку вёў
Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# ЗВАРОТ

## БЕЛАРУСКАГА САЮЗА ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ «ЗНІЧ» ІМЯ П. М. МАШЭРАВА

**БРАТЫ І СЁСТРЫ, ГРАМАДЗЯНЕ І ГРАМАДЗЯНКІ, КІРАЎНІКІ ДЗЯРЖАЎ, УРАДАЎ І МІЖНАРОДНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ! УСЕ, У КАГО Ў СЭРЦАХ ЖЫВУЦЬ МІЛАСЭРНАСЦЬ І СПАГАДА!**

## БЕЛАРУСЬ У БЯДЗЕ!

**Чатыры гады, тысяча чатырыста шэсцьдзесят дзён і начэй! Жыццё, будучыня дзяцей, унукаў і праўнукаў нашых пад пагрозай!**

**Палі і лугі, бары і гаі, рэкі і азёры — крыніцы жыцця самога — усё стала патыхаць смяротнай небяспекай. Пакутуюць малыя, заўчасна гоняць людзей у магілы бяскрыўдныя раней хваробы. Пусцеюць хаты. Сірацеюць магілы памершых. Не плёнам радуе, а пагібеллю жывога пагражае зямлякарміцелька.**

**Як растлу[illegible]ыць усё гэта напалоханым бядо[illegible]одзям!**

**Дзе знайсці ім новы родны кут і сямейнае котлішча!**

**Чарнобыль — гэта духоўная катастрофа!**

**Чарнобыль — гэта экалагічная катастрофа!**

**Чарнобыль — магчымы абрыў памятлівасці і чалавечнасці!**

**Розумам цяжка ўцяміць трагедыю Чарнобыля. Пераадоленне яе патрабуе напружання ўсіх сіл чалавечых, насуперак адчаю, пакорлівасці, апусканню рук.**

**Саюз «Зніч» носіць імя Пятра Міронавіча Машэрава, векапомнае для кожнага беларуса. Смерць зрушвае пастаменты, што вымуроўваюць мана, дыктатарства, гвалтоўніцтва, ды яна бездапаможная перад высакародствам і сумленнасцю душ. Імя Машэрава, яго светлая асоба — неўміручыя ў памяці народнай. Няхай жа яднае яно беларускі народ на справы годныя і добрыя!**

**Зніч — гэта свяшчэнны агонь, якім нашы далёкія продкі абараняліся ад напасцяў цёмнай сілы. Зніч — гэта нязгасны агонь, бо з ім — памяць людская, сэрцы людскія, якія яго ахоўвалі і падсычалі. Зніч — гэта сімвал яднання, падтрымкі і ўзаемападтрымкі. Запалім жа ад зніча вечныя свечкі надзеі і веры!**

**Смяртэльнаму шуганню Чарнобыля супрацьпаставім выратавальную зорку Братэрства народаў Зямлі.**

**Беларускі саюз «Зніч» аб'ядноўвае людзей добрай волі ў іх памкненні ратаваць бязвінныя ахвяры Чарнобыля.**

**Галоўная мэта саюза: усе ахвяраванні — ахвярам Чарнобыля! Саюз будзе садзейнічаць навуцы, медыцыне ў іх пошуку выратавальных сродкаў ад бедаў радыяцыі, экалагічных парушэнняў, мент[illegible]ай бязвыхаднасці. За найбольш значныя навуковыя дасягненні ў ахове і абароне здароўя людзей і жыццёвага асяроддзя Беларусі — саюз «Зніч» мае намер заснаваць Міжнародную прэмію імя Пятра Машэрава.**

**Сёння, у канцы [illegible] стагоддзя, мы асабліва абвострана ўсведамляем, што наша планета ў глабальнай небяспецы, што заўчасная смерць любога чалавека на ёй — трагедыя ўсяго чалавецтва, што кожны з нас адказвае перад гісторыяй за дзень заўтрашні.**

**Званы Чарнобыля звоняць усёй зямлі, даючы знаць пра бяду і шлях ёй перагароджваючы, пакуль не позна.**

**Бяда ў нашай хаце!**

**Калі ў хаце бяда, на дапамогу ідзе грамада!**

**Гэта крык аб дапамозе. Хай жа стане ён усясветным, скаланаючы сэрцы ўсіх, усіх, хто падлеглы Спагадзе, Спачуванню, Міласэрнасці.**

Рахункі «Зніча»: № 700947 у Рэспубліканскім Белжылсацбанку 400019, МФО, № 000700803 у ОПЕРУ Беларускага Рэспубліканскага банка Знешэканомбанка СССР (БССР, 220004, г. Мінск, вул. Заслаўская, 10).

Мінск.
Чэрвень 1990

# 500 AÑOS DEL NATALICIO DE FRANCISCO SKORINA

**En la 25° reunión de la Conferencia General de la Unesco, a iniciativa de la delegación bielorrusa y contando con el respaldo de las de Argentina, Bulgaria, Checoslovaquia, Grecia, México, Polonia, la RDA, Ucrania, URSS y Vietnam, fue aprobada por unanimidad la resolución sobre el festejo del aniversario del ilustrador bielorruso Francisco Skorina, científico y escritor de la época del Renacimiento.**

La Conferencia General,

**tomando en cuenta** que los festejos internacionales de los aniversarios de destacados ilustradores, humanistas, personalidades de la ciencia y la cultura contribuyen a alcanzar los objetivos de la Unesco a fortalecer la comprensión mutua entre los pueblos y tener una idea más exacta y clara sobre la vida de cada uno de ellos,

**recordando** que en la resolución 18 C/4. 351 titulada "Festejos de aniversarios de destacadas personas y acontecimientos" se manifiesta que la celebración de aniversarios de destacadas personalidades y acontecimientos en los Estados miembros amplía el conocimiento sobre aquellas personalidades y hechos históricos que han dejado profundas huellas en el desarrollo de la humanidad,

**recordando** que en 1990 se cumplen 500 años del natalicio de Francisco Skorina, primer impresor entre bielorrusos y eslavos orientales en general, pensador e ilustrador, científico y escritor de la época del Renacimiento,

**compartiendo la convicción** de que la vida y obra de Francisco Skorina tuvo un carácter humanista, así como contribuyó al desarrollo de la imprenta y la difusión de los conocimientos, al desarrollo de la cultura, la afirmación de la dignidad del hombre y la fe en la fuerza de la razón humana,

**teniendo en cuenta** que el 500 aniversario del natalicio de Francisco Skorina tendrá lugar durante el Decenio Mundial para el Desarrollo Cultural,

**tomando en consideración** que el programa de actividades con motivo del Decenio prevé, entre otras metas, ampliar la participación de la gente en la vida cultural, así como contribuir a la colaboración internacional, en el campo cultural,

**expresando** con satisfacción que en 1979, la Unesco publicó —en la serie "Personalidades eminentes de la cultura eslava" — la monografía "Francisco Skorina",

1. exhorta a la Unesco y a los Estados miembros a tomar parte en los festejos del 500 aniversario del natalicio de Francisco Skorina;
2. además, solicita a su Director General:

a) organizar en 1990, en los marcos de actividades culturales programadas en su sede, y con la asistencia de la Representación Permanente de Bielorrusia adjunta a la Unesco, una ceremonia conmemorativa del 500 aniversario del natalicio de Francisco Skorina;

b) informar a la opinión pública mundial acerca de esta importante fecha, en especial, a través de la difusión de materiales dedicados a Francisco Skorina en las publicaciones de la Organización;

c) estimular y apoyar a las organizaciones interesadas en tomar parte en la celebración de este aniversario.

## ESCUELA BIELORRUSA EN MOSCÚ

Comenzó a funcionar en Moscú la primera escuela dominical bielorrusa, creada a iniciativa de la Sociedad que lleva el nombre del impresor e ilustrador bielorruso Francisco Skorina. Sociedades análogas funcionan en numerosas regiones del país. El objetivo de estas instituciones es fortalecer los vínculos espirituales de los bielorrusos con su patria, contribuir a los procesos de reestructuración de las relaciones nacionales, prestar ayuda en el estudio de la historia, cultura, idioma y tradiciones del pueblo bielorruso.

# Francisco Skorina y su época

Nació en Pólotsk, en el seno de una familia de comerciante de medianos ingresos, el cual se dedicaba a la venta de artículos de cuero, pieles y paño en Varsovia, Poznan, Gdansk, Riga y, probablemente, también en Moscú y Cracovia.

Se supone que Skorina nació en 1490, ya que en 1504 se matriculó en la Universidad de Cracovia, en la Facultad de Ciencias Liberales (los jóvenes ingresaban por lo general a la edad de 14 años). Para estudiar en dicho centro era obligatorio saber latín —en aquel entonces, idioma europeo común de la ciencia— el cual aprendió en Pólotsk, en la escuela adjunta al convento de la Orden de San Francisco, donde también es probable que se convirtiera en católico. No obstante, siguió conservando —como se practicaba en la Orden— una actitud benévola hacia las otras religiones cristianas.

Cabe destacar que en el territorio del Gran Principado Lituano convivían amistosamente personas de las más diversas nacionalidades y religiones. En comparación con los Estados vecinos —me refiero a la Polonia católica mononacional y a la Rusia ortodoxa— los pueblos bielorruso y lituano se destacaban por su tolerancia hacia otras creencias. De ahí que, cuando en la segunda mitad del siglo XVII, el patriarca Nikon llevó a cabo la reforma eclesiástica en Rusia, la que condujo a la división de la Iglesia Ortodoxa Rusa, hacia el Gran Principado Lituano se dirigieron numerosísimos viejos creyentes rusos, quienes de esta forma pudieron conservar su fe y costumbres, copiar y publicar sus libros sagrados, afirmar la originalidad de la cultura rusa, la cual se conserva hasta hoy día.

En la primera mitad del siglo XVI, en la época de Skorina, culminó la formación del pueblo bielorruso, y su idioma fue reconocido como oficial por el Gran Principado Lituano. En bielorruso antiguo escribían las crónicas, los documentos del Principado y funcionaban sus tribunales; fue el idioma de comunicación entre todas las capas de la sociedad. En el país poco a poco iban arraigando las ideas del Renacimiento Europeo, su humanismo y su librepensamiento. Y precisamente Francisco Skorina fue quien consolidó las raíces del Renacimiento en Bielorrusia.

En 1506, en Cracovia, Skorina recibió el primer grado científico: el de bachiller, pero se desconoce dónde y cuándo le concedieron el título de maestro de las artes y ciencias liberales. Ambos títulos eran obligatorios para ingresar en las facultades más prestigiosas de la universidad, las de Filosofía y Medicina, de las cuales él egresó. Se sabe con exactitud que en 1512 se doctoró en Medicina en la Universidad de Padua, famosa por su excelente profesorado y su jardín botánico.

Uno de los grandes méritos científicos de Skorina fue haber sido el primer representante de los eslavos orientales en la élite científica europea, con lo cual contribuyó a la integración del pueblo bielorruso al proceso histórico-cultural europeo. Skorina encabezó el acercamiento de los eslavos orientales con Europa. El sacrificó su carrera de médico y científico por la actividad humanitaria ilustrativa. Luego de recibir apoyo moral y material del patriciado de Vilno, viajó a Praga para aprender el oficio de impresor, y luego traducir al bielorruso antiguo y editar la Biblia.

El 6 de agosto de 1517, en Praga vio la luz "Salterio", el primer libro bielorruso impreso, con el prefacio de Skorina. En los tres años siguientes, él editó 20 libros bíblicos, los más importantes desde el punto de vista histórico. La calidad de impresión correspondía a los máximos adelantos del arte tipográfico y gráfico de la época del Renacimiento. Skorina no pudo editar un texto redactado, a punto de ser impreso, porque debió abandonar Praga inesperadamente, obligado quizás por la epidemia de peste que azotaba la ciudad, o por la explosión de fanatismo religioso, provocado por la reforma. Pero lo más probable es que Skorina haya regresado a Vilno a pedido de sus mecenas, quienes soñaban con disponer de su propia tipografía para abastecer de libros a todo el mundo de eslavos orientales. El alcalde Yákub Bábich destinó para la tipografía habitaciones de su casa, mientras el rico comerciante Bogdán Onkov comenzó a sondear el mercado de libros moscovita. En 1522, en el Gran Principado Lituano vio la luz el primer libro impreso titulado "Pequeño libro de viaje", el cual contenía información útil para los hombres de negocios y viajeros, así como textos de oraciones y salmos populares, y tratados educativos.

El segundo y último libro de Skorina fue "Apóstol" (1525), donde se relata s[illegible] la actividad desarrollada [illegible] los primeros predicadores del cristianismo en el Cercano Oriente, Grecia y Roma. El énfasis de su misión apostólica armonizaba con los sentimientos y la actividad del propio Skorina.

Es probable qu[illegible]eara vivir hasta el fin de sus [illegible]as en Vilno, donde se casó con Margarita, viuda de un comerciante. Junto con su esposa se convirtió en accionista del negocio de Iván, hermano mayor de Skorina. Desgraciadamente, no tuvieron suerte en el mercado de libros. Por lo visto, las capas pudientes de la sociedad bielorrusa no recibieron con agrado la idea de subvencionar la nueva empresa iniciada por Skorina: la impresión de libros. El año 1529 fue sumamente duro para Skorina, pues murió Margarita, dejándole al pequeño Simeón; luego en Poznan falleció Iván, de quien heredó tan sólo deudas. Los acreedores responsabilizaron de éstas a Skorina, quien, en fin de cuentas, fue a parar a la cárcel. No obstante, el Tribunal Real lo absolvió quedando sin resolver el pleito incoado por los parientes de su esposa, los que exigían su parte de la herencia. Amargado por los giros de su suerte, Skorina buscó apoyo en el duque de Prusia, Albrecht Hohenzollern, quien deseaba abrir una tipografía con el fin de propagar el luteranismo. Pero pronto debió regresar a Vilno, aunque no para dedicarse a su asunto preferido, la impresión de libros.

Francisco Skorina pasó sus últimos años en Praga, trabajando de médico del rey y botánico. Allí adquirió gran prestigio como científico y pudo dejar a su hijo algunos medios económicos. Pero su principal riqueza fueron sus pensamientos íntimos y aquellos libros recogidos durante sus innumerables viajes, los cuales forman parte del patrimonio espiritual del pueblo bielorruso y de toda la humanidad.

Hoy día se conservan 390 ediciones de Skorina: 239 en Praga y 151 en Vilnius. Muchas de sus obras fueron copiadas a mano, y su valiosa experiencia en materia de impresión fue aprovechada por sus seguidores y sucesores Simón Budni, Iván Fiódorov, Petr Mstislavets.

Vladímir KOLÉSNIK, profesor

**Redactor de la página: K. SHELESTÓVICH**



*Hace diez años en una de las nuevas microregiones de Minsk fue inaugurada la escuela secundaria № 147, especializada en la creación artística. Los alumnos de dicha escuela aprenden a dibujar, pintar, hacer composiciones, se interesan mucho por el diseño. Una atención especial se le da a la técnica de artes aplicadas: tejeduría, tallado de madera, pintura en tela, tejido de paja, macramé.*
*Sin duda alguna las escuelas de este tipo, siendo portadoras de ideas avanzadas, servirán a la causa del renacimiento de nuestras tradiciones espirituales.*
*EN LAS FOTOS: somos futuros pintores; el alumno del noveno grado A. KUZMINAS y la maestra N. CHERNOVA durante las prácticas veraniegas se ocupan de la pintura; su cuadro lo demuestra la alumna del primer grado Sasha KRASNOVA.*





## «УЛІС» — ДЫВЕРСАНТЫ СУПРАЦЬ МАСАВАЙ КУЛЬТУРЫ?

# «ГОРАД ДАЕ МНЕ СЛОВЫ І МУЗЫКУ»

*Мінскі рок-гурт «Уліс» існуе каля года, але яго кампазіцыі сталі прыкметнай з'явай у беларускай пап-музыцы. Прапануем гутарку журналіста Уладзіміра СІЎЧЫКАВА з удзельнікамі калектыву Сержуком КРАЎЧАНКАМ і Феліксам АКСЁНЦАВЫМ.*

**Кар.** — Сяргей, прадстаў, калі ласка, свой калектыў.

**С. К.** — Адразу хачу ўдакладніць: гурт не мой, а наш — у ім няма лідэра, кожны адказвае за пэўны кавалак працы. А на сцэну мы выходзім у наступным складзе: Вячаслаў Корань — гітара, Андрусь Патрэй — акустычная гітара, вакал, Кірыла Шавандо — бубны, Валерый Ціліцкі — перкусія, тэхнічнае кіраўніцтва. Я іграю на бас-гітары, Фелікс Аксёнцаў — аўтар тэкстаў усіх нашых кампазіцый.

**Кар.** — Не зусім беларускую назву гурта вы абралі свядома? Які сэнс укладаеце ў яе?

**Ф. А.** — «Уліс» для нас — гэта пошукі, падарожжа па свеце і да саміх сябе. Мяняюцца на зямлі народы, гарады, маршруты, а мроя пра вандроўкі застаецца нязменнаю з гамераўскіх часоў. Мы лічым, што няма на свеце новых тэм, а вось новыя формы, пераўтварэнні непазбежныя. Старажытнагрэчаскі Адысей стаў у рымлян Улісам, а той, у сваю чаргу, даў назву сусветна вядомаму раману. Герой Джэймса Джойса вандруе па Дубліну, па сталіцы Ірландыі, а да гэтага краю ў нас асаблівая любасць, бо знаходзім у ім нямала падабенстваў са сваім. Але назву гурта і ў іншамоўным тэксце напішам у беларускай транскрыпцыі.

**Кар.** — Рок — з'ява інтэрнацыянальная?

**Ф. А.** — Безумоўна!

**Кар.** — Але некаторыя лічаць яго ледзь не параджэннем пекла, упэўненыя, што ён не можа развівацца на нашай зямлі.

**С. К.** — Мы больш талерантныя. Нам можа не падабацца, што робіць той ці іншы эстраднік, але мы не адмаўляем яму ў праве на творчасць, а тым болей на існаванне.

**Кар.** — А што такое, па-вашаму, рок?

**Ф. А.** — А што такое ісціна, каханне, паэзія? Тут, напэўна, трэба адказваць маўчаннем або таксама пытаннямі. Можа рок — гэта форма пратэсту, памкненне рабіць тое, што лічыш патрэбным? Можа рок — гэта спосаб дасягнення ўнутранай свабоды праз музыку? Можа рок — гэта нават спосаб, лад жыцця? Ва «Улісе» мы не займаемся рокам, мы ім жывём. Нехта сказаў, што рок — гэта фальклор вялікага горада. У пэўнай ступені магу пагадзіцца: я іду па горадзе і адчуваю яго рытмы, яго музыку. Горад дае мне і словы... Але дакладна ведаю, што рок — не набор пэўных музычных прыёмаў, а таму не лічу рокавымі многія «металічныя» гурты.

**Кар.** — Улісаўцы і знешне не нагадваюць рокераў у агульнапрынятым разуменні гэтага слова.

**С. К.** — На сцэне мы апрануты гэтак жа, як і ў жыцці, не прымаем тэатральнай касцюмаванасці: розных шыпоў, ланцугоў, скуранак са шматлікімі заклёпкамі...

**Ф. А.** — І не хочам, каб публіка дыктавала нам свае густы.

**Кар.** — Вы акрэсліваеце, уяўляеце свайго слухача? Хацелі б неяк уплываць на яго?

**С. К.** — Мы граем найперш для сваіх сяброў. Калі, дзякуючы нашай музыцы, іх стане болей, будзем вельмі рады. Мы не стараемся неяк спецыяльна ўплываць на слухача, а тым болей быць кумірамі. Калі ўдаецца хоць крыху падымаць у моладзі ўзровень культуры, нацыянальнай свядомасці, інтэлігентнасці — працуем не марна.

**Кар.** — Якія, на вашу думку, адметныя рысы ў беларускага інтэлігента?

**Ф. А.** — Гэта ў пэўнай ступені self made man, чалавек, які зрабіў сябе сам. Гэта чалавек, які прайшоў праз боль. Ён не саромеецца сваёй культуры, роднай мовы, якую знае нярэдка ўжо ў сталым узросце і не ад бацькоў. Дзесяткі, сотні тысяч беларускіх інтэлігентаў загінулі на вайне, былі знішчаны падчас сталінскіх рэпрэсій, і сённяшні беларускі інтэлігент — найчасцей інтэлігент у першым, добра, калі ў другім, і даволі рэдка — у трэцім пакаленні.

**Кар.** — У кампазіцыі «Пакуль спяваю» ёсць радок «Я буду апрануты, як чалавек з натоўпу»...

**Ф. А.** — Я не люблю тых хто ўспрымае мяне як чалавека з натоўпу, я люблю людзей, бо кожны чалавек уяўляе вялікую самакаштоўнасць. Мяне не турбуе, ці падобны я адзеннем да знакамітай рок-зоркі, мяне цікавіць, ці падобная музыка «Уліса» і мае тэксты да таго, што ў маёй душы.

**Кар.** — А што ў тваёй душы?

**Ф. А.** — Прыходзь на канцэрт, бо я не скажу болей, чым тэкстамі песень. Пра адну плынь кампазіцый «Уліса» можна меркаваць па такіх назвах: «Чужаніца», «Пан Руст», «Гестапа», «Сны аб грамадзянскай вайне», «Будапешт — Прага — Кабул...», «Краіна ў кратах»...

**Кар.** — Можа ты прачытаеш адзін з тэкстаў?

**Ф. А.** — Прачытаю, толькі з другой плыні.

### ПЛЯЦ ФРАНЦЫСКА

**Доўгі Брод, завулак Кветак**
**і Траў.**
**Не пытай у мяне, дзе яны**
**цяпер,**
**І не шукай.**
**Крок у змрок, зноў такі**
**самы мой шлях.**
**Плошча нумар два, плошча**
**нумар тры.**
**Дзе тваё імя, мой пляц!**
**Пляц Францыска, падкоў**
**змулены гук,**
**Каляровая цэгла вякоў.**
**Пляц Францыска, на небе**
**недзе твой брук.**
**Ты таемная зброя дзядоў.**
**Доўгі час, калі цябе не было,**
**Я хадзіў да крам, я купляў**
**віно,**
**Каб неяк жыць.**
**Нехта зноў кахае жонак**
**сяброў,**
**Шыбы б'е ўначы ды шукае**
**ўцех.**
**Дык нашто яму той пляц!**
**Пляц Францыска, падкоў**
**змулены гук,**
**Каляровая цэгла вякоў.**
**Пляц Францыска, на небе**
**недзе твой брук.**
**Ты таемная зброя дзядоў.**

**С. К.** — Па гэтым тэксце можна меркаваць, што мы з пашанай ставімся да культурнай спадчыны, да старадаўняга дойлідства. Ахвотна прымаем удзел у дабрачынных канцэртах, грошы ад якіх ідуць на рэстаўрацыю архітэктурных помнікаў, Лідскага замка ў прыватнасці.

**Кар.** — А якую музыку вы граеце?

**Ф. А.** — Былі б задаволены, калі б музычныя крытыкі назвалі нас радавымі з пятай калоны рок-н-рола або дыверсантамі супраць масавай культуры.

**Кар.** — Ёсць у вас агульныя музычныя ўпадабанні-арыенціры?

**С. К.** — Агульныя? «Тне Police», «Тнесиге» і, канечне, «U 2».

**Ф. А.** — Дарэчы, я заканчваю перакладаць з англійскай артыкул пра гэтую ірландскую каманду.

**Кар.** — А як твае ўласныя вершы, артыкулы пра музыку?

**Ф. А.** — Сёе-тое пішацца.

**Кар.** — А чым жыве «Уліс»?

**С. К.** — Як і заўсёды, рэпетыцыямі, гастрольнымі паездкамі. Спадзяёмся выступіць у Літве і Польшчы. У бліжэйшы час мяркуем запісаць сваю праграму, але, на жаль, у Беларусі няма па-сучаснаму абсталяванай студыі грамзапісу.

**Кар.** — Што ж, дзякуй вам за гутарку! Зычу «Улісу» творчага плёну і новых вандровак!

**Гутарку вёў**
**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ.**



**НА ЗДЫМКУ: рок-гурт «Уліс» (Вячаслаў КОРАНЬ, Валерый ЦІНІЦКІ, Сяржук КРАЎЧАНКА, Андрусь ПАТРЭЙ, Кірыла ШАВАНДО).**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**Сёлетняя выстава, прысвечаная 45-годдзю Перамогі, — сведчанне крызісу «ваеннай» тэмы ў беларускім выяўленчым мастацтве, а таксама выразнай палярызацыі ў поглядах мастакоў і на «ваенную» тэматыку, і ўвогуле на «тэматычныя» выставы. Калі мастакі старэйшага пакалення, сярод якіх, дарэчы, нямала ветэранаў, прадставілі ў экспазіцыю партрэты ўдзельнікаў вайны ці батальныя сцэны ў міфалагічна-гераічнай трактоўцы, дык іх маладзейшых калег больш вабяць адвечныя каштоўнасці звычайнага мірнага чалавечага жыцця. А калі яны і звяртаюцца да драматычнага мінулага краіны, да трагедыі сённяшняга дня, дык акцэнтуюць увагу менавіта на трагізме, заклікаюць гледача думаць аб тым, чаго вартыя перамогі, калі забываюць пра ахвяры, пра людзей.**

**НА ЗДЫМКАХ: Ф. БАРАНОЎСКІ. «Мінск наш»; П. ШАРЫПА. «Партрэт былой партызанкі Мацюх М. С.».**



*СПАДЧЫНА*

# МІЛЬЧА СТАРАЯ І НОВАЯ

Напэўна, не раз гамяльчане чулі гэтую назву — Мільча. Але адна справа чуць, зусім іншая — ведаць што-небудзь канкрэтнае аб гэтай, цяпер ужо былой вёсцы. Нічога не зробіш, час няўмольна аддаляе ад нас былое. І падобна Мільчы, лёс многіх населеных пунктаў, якія ўвайшлі даўно ці нядаўна ў межы буйных прамысловых цэнтраў, у канчатковым выніку аказваецца амаль аднолькавым. Мы ў лепшым выпадку помнім старую назву вёскі, утвараем ад яе найменне пэўнай вуліцы (дарэчы, вуліца Мільчанская ёсць у Савецкім раёне горада Гомеля). Сама ж вёска, як пэўная гісторыка-геаграфічная адзінка, раствараецца сярод карпусоў прамысловых аб'ектаў ці сучасных жылых шматпавярховак новых мікрараёнаў. І разам з гэтым назаўсёды губляюцца ў часе каштоўныя факты, здараецца, шматвяковай гісторыі не толькі данага пасялення, але і вялікага горада.

На шчасце, Мільча пакуль яшчэ існуе. Яна нібы своеасаблівы вясковы «аазіс», у якім у поўнай меры замест гарадскога гоману, бесперапыннага гудзення машын і шызага дыму выхлапных газаў адчуваеш цішыню, сапраўдны подых вясковай раніцы, непаўторны і такі, здаецца, далёкі, забыты пах печы. Але азірнешся навокал і адразу зразумееш, што ўсё гэта ненадоўга. З усіх бакоў цягнуцца ў неба смуродныя трубы хімзавода, «Цэнтраліта», завода ліцця і нармалей. А самая галоўная дарога ў Мільчу — вуліца Базавая (паварот з вуліцы імя Барыкіна направа ў раёне завода «Цэнтраліт») сваёй «жалезнай» назвай, бетоннымі сценамі шматлікіх кантор і складоў і вялікімі бензінавымі плямамі на асфальце аж прыгнятае настрой. У Мільчы ж становіцца весялей. Адны толькі назвы мясцовых вуліц — Баравая, Ягадная, Ясная, Вясенняя, Зялёная — аказваюць псіхалагічны эфект. Менавіта тут пасля доўгай дарогі па сучаснаму гораду нарэшце страпянешся, перавядзеш дух, уздыхнеш поўнымі грудзямі і задумаешся не толькі аб сучасным, але і аб мінулым. Не ведаю, як у каго, але ў мяне адзін толькі выгляд вёскі, тым больш з цікавым найменнем, заўсёды вы-

(Заканчэнне на 8-й стар.).



# МУЗЕЙ У ДЗІЎНЫМ

З Віцебшчынай, з азёрным Дзісенскім краем, звязана імя вядомага беларускага мастака Язэпа Драздовіча. Ён адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў першых кніжных выданняў на беларускай мове. Яго работы ілюстравалі «Беларускі каляндар на 1910 год», першую кніжку паэтэсы Канстанцыі Буйло «Курганная кветка». У 30-я гады Язэп Драздовіч, пакінуўшы работу ў Вільні, перабраўся на родную Віцебшчыну, дзе жыў і працаваў, вандруючы па хутарах і вёсках. За хлеб і начлег дарыў прості людзям многія свае карціны, як мог нёс культуру і асвету ў народ.

Добра вядомы таксама яго этнаграфічныя замалёўкі і графічная серыя старадаўняй архітэктуры Беларусі і Літвы: «Глыбокае», «Мір», «Навагрудак», «Крэва» і інш. Стварыў партрэты Ф. Скарыны, А. Грыневіча, Усяслава П лацкага. Язэп Нарцызавіч запісваў народнь песні, збіраў і апрацоўваў для слоўнікаў лексіку народнай мовы.

І не дзіўна, што, пачынаючы пошукі матэрыялаў і дакументаў для музея мастацтва і этнаграфіі, які некалькі гадоў назад створаны ў вёсцы Дзіўнае Шаркоўшчынскага раёна, многа карцін Язэпа Драздовіча энтузіясты сабралі ў мясцовых жыхароў. Разам з іншымі экспанатамі яны складаюць лепшую частку экспазіцыі ў музеі саўгаса «Гарадзец», які з цікавасцю наведваюць школьнікі, жыхары вёскі Дзіўнае і іншых сёл.

НА ЗДЫМКАХ: у пераабсталяванай старадаўняй пабудове, дзе раней знаходзілася саўгасная кацельня, размясціўся музей мастацтва і этнаграфіі; карціна Я. Драздовіча «Скрыпач».

Фота Л. КЛІМАНСКАГА,
А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.



# МІЛЬЧА СТАРАЯ І НОВАЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

клікае моцнае прафесійнае жаданне дайсці да вытокаў і самога пасялення, і яго назвы.

...Калісьці даўно, а дакладней — тры стагоддзі назад, у гэтай мясціне быў толькі мокры альховы ды бярозавы лес і вялікая непраходная дрыгва. Праўда, трохі наводдаль мясцовасць станавілася вышэйшай, раслі сосны і зрэдку дубы. З балота білі крыніцы, і адтуль выцякаў ручай, рэчышча якога ў напрамку на поўдзень, у бок сучаснай вёскі Давыдаўкі, і ракі Сож, расшыралася. Рачулка называлася Случ, другая ж назва яе была Мільча. Хоць гэтыя найменні і славянскія, толькі даволі старажытныя, для сучаснікаў яны будуць незразумелымі, таму трэба сказаць, што ўтварыліся яны ад слоў са значэннем «балота, дрыгва, вільготная нізіна, балоцістая рэчка».

На берагах Случы-Мільчы прыкладна ў XVII стагоддзі ўзнікла беларуская вёсачка, для абазначэння якой яе жыхары перанялі другую частку наймення ракі. Вёсачка размясцілася якраз недалёка ад балота. Хаткі былі маленькія, з бярвення, з адным, зрэдку двума невялічкімі акенцамі, паліліся па-чорнаму. Не ведаю, каму належала першапачаткова вёсачка, але ўпэўнены, што да часу жыццё працякала тут ціха, непрыкметна. У пачатку XVIII стагоддзя на проціleглым ад вёскі беразе Мільчанскага балота пачалі з'яўляцца новыя пасяленні. За якіх-небудзь 10—20 гадоў неўпрыкмет узнікла цэлая вёска. Праўда, афіцыйна яна лічылася слабадой, а яе жыхары называліся слабаджанамі. І было гэта не выпадкова. Слабаджанé-мільчанцы трымаліся вельмі замкнёна, з суседзямі не вельмі жадалі ўступаць у кантакт. Яны лічыліся свабоднымі, незалежнымі. Гомельскім старастам Васілю, Фаме і Мікалаю Красінскім яны спраўна плацілі падаткі за зямлю, патрабуючы ўзамен, каб тыя не ўмешваліся ў іх справы. Урад меў вялікую выгаду ад перасяленцаў, якія сяліліся не толькі пад Мільчай, але і ў іншых неабжытых месцах вакол старога Гомеля. Таму і выдаваліся распараджэнні, падобныя на наступнае: слабаджанам «вольно будет попов держать, церкви без всякого препятствия становить вольно будет», слабаджане маглі жыць «без всякого утеснения от панов, и от ксендзов, и от попов, и от мужиков, и от всякого чина», «без всякого поругания и порицания». У мільчанскай Слабадзе, якая хутка атрымала назву Новая Мільча, гучала руская мова, бо прыжыліся тут, як чытачы ўжо напэўна здагадаліся, перасяленцы з расійскіх абласцей — прыхільнікі старой веры.

Геаграфічныя апісанні і статыстычныя падлікі канца XIX—пачатку XX стагоддзяў часцей называюць больш буйную слабаду Новую Мільчу, чым невялікую вёсачку Старую Мільчу. Так, у кнізе «Волости и важнейшие селения Европейской России. — Выпуск V. — Губернии Литовской и Белорусской областей» (С.-Птб., 1886) адзначалася, што ў Новай Мільчы было 140 двароў, меліся лаўка і ветраны млын.

З лютага 1983 года Старая і Новая Мільча ўваходзяць у гарадскую мяжу. Былыя вёскі афіцыйна сталі часткай горада, хоць яшчэ да 1961 года тут была сапраўдная глыбінка. Тады ў Мільчы з'явілася электрычнасць. А да гэтага адзіным домам, дзе свяцілася электрычная лямпачка, быў клуб, адкрыты ў пасляваенныя гады ў драўлянай прыбудове да былой стараверскай царквы. Добрым словам успамінаюць мільчанцы 60-я гады. Тады ў вёсцы, дзякуючы намаганням былога старшыні сельсавета Уладзіміра Кулікава, на вялікім уздыме была культурная і спартыўная работа. Фізкультурнік па адукацыі, Кулікаў стварыў тут некалькі спартыўных секцый, у якіх займалася амаль усё маладое пакаленне мільчанцаў. Па яго ініцыятыве пабудавалі і бібліятэку. Або вось такі факт з таго часу: у 1962 годзе 700 чалавек, амаль усё працаздольнае насельніцтва вёскі, выйшла на нядзельнік, каб пабудаваць дарогу паміж Старой і Новай Мільчай.

Гэтыя адрывачныя факты, зразумела, не даюць поўнай карціны новай мільчанскай гісторыі. Тым не менш, яны вельмі красамоўныя. У памяці старэйшага пакалення мільчанцаў захаваліся і іншыя факты і падзеі. З павагай успамінаюць імя першага старшыні мясцовага калгаса Максіма Жалезнякова. А вось першыя камсамольцы абуджаюць у памяці старых не вельмі прыемныя ўспаміны: камсамольцы ламалі мясцовую царкву, у якой потым адкрылі клуб. Ад царквы захаваліся толькі рэшткі прыгожых варот са шліфаванай цэглы, якія, дарэчы, клапатліва рамантаваў той жа старшыня Кулікаў. Новую гісторыю сваёй вёскі вывучаюць мільчанскія школьнікі, члены гісторыка-краязнаўчага гуртка пры сярэдней школе № 48. Кіруе гу м завуч, гісторык Раіса К якіна.

У маленькім утульным пакойчыку школы размясціўся мільчанскі музей. Не, я не памыліўся. Экспазіцыя музея даўно перарасла школьныя межы і з'яўляецца па сутнасці агульнавясковай. Кіраў музея Р. Кажамякіна раск а мне пра музейныя матэрыялы і пра напрамкі дзейнасці краязнаўчага гуртка, а я здзіўляўся таму, як многа ўжо зроблена. Кожны прыгожа афармлены стэнд — гэта ілюстраваны маленькі расказ аб падзеях у Мільчы і на Гомельшчыне, аб славутых земляках. Вось, напрыклад, матэрыялы пра Фёдара Стральца. Жыхар Старой Мільчы Ф. Стралец геройскі загінуў у чэрвені 1944 года на беларускай зямлі. Пасмяротна яму было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. Іменем Ф. Стральца названа вуліца, на якой размешчана школа. Смерцю храбрых загінуў і настаўнік Старамільчанскай школы С. Мяшкоў, памяць аб якім перадаецца з пакалення ў пакаленне мільчанскіх школьнікаў.

Аб уражаннях наведвальнікаў музея сведчыць кніга водгукаў, у якой пакінулі запісы госці з Ленінграда, Чэлябінска, Сумскай вобласці, Чаркас, вёскі Краснае Гомельскага раёна і іншых мясцін.

Наперадзе ў мільчанскіх краязнаўцаў новыя пошукі і адкрыцці. Работы шмат. У Мільчы яшчэ жыве тое пакаленне, на вачах якога адбываліся вялікія пераўтварэнні першых гадоў Савецкай улады, праходзілі цяжкія дні Вялікай Айчыннай вайны. Відаць, настаў час, каб скласці летапіс Мільчы, стварыць у музеі этнаграфічны куток, дзе былі б прадстаўлены элементы матэрыяльнай і духоўнай культуры, што захаваліся ў самых старых жыхароў вёскі,—вышытыя ручнікі і пісаныя рускімі пісьмёнамі стараверскія кнігі. Помняць яны і народныя звычаі і павер'і, ведаюць паданні і абрады. Усё гэта патрэбна нам і тым, хто будзе жыць пасля нас.

Аляксандр РОГАЛЕЎ.

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## ЗАПЯКАНКА РЫСАВАЯ З ТВАРАГОМ

Зварыць рысавую кашу з разынкамі, злёгку астудзіць і дабавіць працёрты тварог, узбітае з цукрам яйка, ванілін, соль па густу, усё старанна перамяшаць. Прыгатаваную масу пакласці ў форму, змазаную маслам, пасыпаную сухарамі слоем 2-3 сантыметры, паверхню змазаць сумессю аднаго яйка і 1 сталовай лыжкі смятаны. Запякаць у духоўцы (25 — 30 мінут) да з'яўлення залацістай скарынкі. На стол падаць гарачую запяканку са смятанай ці фруктовым сокам.

3/4 шклянкі рысу, 2 шклянкі вады, 40 грамаў разынак, 120 — 150 грамаў тварагу, 2 сталовыя лыжкі цукру, 2 яйкі, соль па густу, смятана, фруктовы сіроп.

## ПУДЫНГ З ТВАРАГОМ І АГАРОДНІНАЙ

З манных круп і малака зварыць кашу. Цвятную капусту і моркву нарэзаць і патушыць з малаком (2-3 сталовыя лыжкі) і маслам (20 грамаў). У прыгатаваную кашу дабавіць цукар, агародніну, жаўткі, усё перамяшаць. Потым, асцярожна памешваючы, уліць узбіты яечны бялок. Масу перакласці ў форму, змазаную маслам, памазаць верх пудынгу яйкам, запячы ў духоўцы. Перад падачай на стол паліць растопленым маслам.

3/4 шклянкі манных круп, 2 шклянкі малака, 100 грамаў цвятной капусты, 1 морква, 100 грамаў масла, 1-2 сталовыя лыжкі цукру, 200 грамаў тварагу, 2 яйкі.

## АЛАДКІ З ТВАРАГУ І БУРАКОЎ

Вараныя буракі пачысціць і працерці цераз сіта ці здрабніць на тарцы. Да атрыманай масы дабавіць пшанічную муку, нарэзаны тонкімі кавалачкамі пачышчаны яблык, добра расцёрты тварог, малако, яйка, цукар, соль. Усё добра перамяшаць, пасля чаго можна пячы невялікія аладкі. Перад падачай на стол паліць топленым маслам, асобна падаць смятану.

200 грамаў буракоў, 4 сталовыя лыжкі мукі, 100 грамаў яблыкаў, 350 грамаў тварагу, 1/2 шклянкі малака, 1 яйка, 1/2 сталовай лыжкі цукру, соль па густу, 30 грамаў топленага масла, смятана.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44,
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80,
33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. № 777